Pierazyłka apłačana gyčaltam. Цана асобнага нумару **20 гр.**

№ 3. Вільня, Субота 15 лістапада 1930 г. Год 1.

# БЕЛАРУСКІ КЛІЧ

**Палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарская газэта.**

| | | |
|---|---|---|
| Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Людвісарская 1 — 32. | Орган аб'яднаных беларускіх незалежных партыяў. | Прыймо іатэрэсантаў ад 10 да 2 гадзіны што дня апрача сьвятаў і нядзелі. Цана з дастаўкай да хаты ва месяц 1 зл. |

## Да жыхараў Віленскага і Наваградзкага ваяводзтваў

**Браты!** Памятайце, што сьпіскі ў сэнат па Віленскаму і Наваградзкаму ваяводзтвах **зацьверджаны.** Дык 23 лістапада г. г. усе як адзін павінны галасаваць за № 11.

Па Віленскаму ваяводзтву на першых мясцох стаяць: Вячаслаў Багдановіч, стары і заслужаны беларускі дзеяч; Базыль Рагуля, змагар за беларускую справу, які цяпер сядзіць у турме.

Па Наваградзкаму ваяводзтве стаіць тольні Вячаслаў Багдановіч, бо Рагуля і Цікота па Наваградзкаму ваяводзтву скрэсьлены.

**Жыхары Віленскага ваяводзтва і Наваградзкага галасуюць у Сэнат за № 11. Браты, споўніце свой абавязак!!!**

## Выдуманыя вэксалі.

У 4-тым нумары санацыйна-полёнофільскага „Народн. Звону", якому відаць загадана „пастарацца", надрукавана ілжывая стацьця пад загалоўкам „Фальшывыя вэксалі". У гэтай стацьці, відаць, „сам" Луцкевіч нападае на аб'яднаныя незалежніцкія партыі (Б. Х. Д., Сял. Саюз і Правасл. Аб'яднаньне), што быццам яны прадалі ўкраінцам усё беларускае Палесьсе, абымаючае Берасьцейскі і Пінскі выбарныя акругі, а прадалі быццам на тэй падставе, што на сьпісках тых акругоў выстаўлены толькі ўкраінцы без беларусаў.

У адказ на гэтую новую Луцкевічаўскую брахню заяўляем, што **ані ў Берасьцейскім, ані ў Пінскім вокрузе сьпіскаў Бел.-Укр. Блёку няма.** У Берасьцейскім вокрузе сьпісак ня быў выстаўлены сусім (сталася гэта дзеля незалежных ад Блёку прычын), а ў Пінску сьпісак быў скасаваны. Беларускія кандыдаты, як на Берасьцейскі вокруг так і на Пінскі, былі паданы Агульна-Бел. Выбарчым Камітэтам у Цэнтралю Блёку, а Цэнтраля мелася ўпісаць іх на акружныя сьпіскі ў такім парадку: першае месца па Берасьцейскаму вокругу ўкраінцам, а другое беларусам, па Пінскаму вокругу першае месца беларусам, а другое ўкраінцам. Як ведаем, у Берасьці сьпісак ня быў паданы сусім, а ў Пінску быў паданы, але яго спаткала няшчасьце: калі ўжо сьпісак ляжаў на стале выбарчай камісіі, яго схапіў нейкі „пан" і уцёк — і сьлед па ім прапаў (гл. „Діло" № 239 з дн. 26. Х. с. г.). Тагды відаць на скорую руку, у апошні дзень, паўнамоцнік сьпіску злажыў новую лісту, упісваючы каго хацеў, — не спадзяючыся ўжо добрага рэзультату, бо пад лістай было ўсяго 10 подпісаў... Ясна, што гэтая другая ліста была падана толькі для формы, абы падаць... Не магла яна быць зацьверджанай, маючы такія фармальныя недахопы.

Гэтак выглядае справа з „прадажай" Палесься ўкраінцам.

А што сказаць аб другой „прадажы", якую, бачыце, зрабілі ўжо ня мы, але — Ластоўскі. Паводле гэтай „прадажы" быццам Ластоўскі (каторы цяпер жыве ў Менску) прадаў Літве Віленшчыну і Горадзеншчыну, а мы „вінаваты," што проціў гэтай прадажы не пратэставалі, а нават быццам „пацьвярдзілі" яе.

Бось-жа ў імя праўды заяўляем, **што мы ніколі і нідзе ніякай прадажы беларускіх земляў не пацьвярджалі, бо на гэта ня маем ніякага права.** Не пацьвярджалі мы ніякіх палітычных комбінацыяў Ластоўскага, не пацьвярджалі ўступкі савецкімі ўладамі Віленшчыны і Горадзеншчыны Літве на падставе Маскоўскага трактату з 1920 году, не пацьвярджалі таксама прадажы ўсей Заходн. Беларусі, якую зрабіў у 1920 годзе „сам" п. Антоні Луцкевіч генэралу Балаховічу, а праз яго Польшчы... Маладое пакаленьне можа ня помніць дружбы Луцкевіча з Балаховічам, але мы помнім і помнім ягоныя вэксалі, выданыя генэралу-пагромшчыку.

Мы заўсёды дзяржаліся і дзяржымся таго правіла, што ніхто іншы, ні Ластоўскі, ні саветы, ні Луцкевіч, ні Балаховіч, **а толькі сам Беларускі народ можа пастанаўляць аб сваіх граніцах з суседзямі.** Усе вэксалі, якія падпісаў Луцкевіч ці хто іншы ад імя беларускага народу, ня маюць сілы, бо ніхто іх да гэтага не ўпаважніў. Народ пройдзе па іх і па іхніх вэксалях, а да Луцкевіча і кампаніі за яго палітычнае крутельства і брахню выразіць найглыбейшую пагарду, так, як гэта ўжо робіць.

## Галасаваньне ў Сэнат.

Пасьля першага выбарнага акту,— галасаваньня ў Сойм,—які адбудзецца ў нядзелю 16-га гэтага месяца, наступае другі акт: **23-га адбываецца галасаваньне ў Сэнат.** Трэба нам, грамадзяне, памятаваць, што гэты апошні акт нашага грамадзкага абавязку ёсьць ня менш важны, як і першы. Той, хто галасаваў толькі ў Сойм, а ня йдзе галасаваць у Сэнат, той **аддаў толькі палову** свайго доўгу нашай бацькаўшчыне.

Вялікае значэньне гэтага астатняга акту выяўляецца з таго аўторытэту, які мае Сэнат паводле польскай канстытуцыі ў палітычным жыцьці Польшчы.

Паводле канстытуцыі ні адзін закон **ні адна ўстава** ня мае сілы, пакуль ня пройдзе ня толькі праз Сойм, але і праз Сэнат, з чаго відаць, што ў устанадаўчым парадку Сэнат мае такое самае значэньне, як і Сойм.

Але з нейкага пункту гледжаньня ў самым працэсе законадаўства палажэньне Сэнату нават больш выгаднае, як Сойму. Выгада гэта знаходзіцца ў тым, што Сэнат разглядае ўставы пасьля Сойму. Такім чынам Сэнату ўжо бывае ведамы ня толькі зьмест самай уставы, але і ўвесь прабег працы, усё тое, што ў Сойме гаварылася і **за і проціў** уставы, усе прамовы паслоў, усе тыя ці іншыя кірункі, на якія кожная партыя стараецца зьвярнуць супольны законадаўчы воз; яму ўжо ведамы ўсе довады і доказы, якімі кожная партыя, кожны кірунак угрунтовывае свае погляды.

У гарачым настроі партыйнай барацьбы часта бывае, што сам Сойм заўважывае свае абмылкі толькі пасьля таго, як ужо адбылося галасаваньне. Часта бывае і так, што з прычыны выпадковай камбінацыі партыйных сіл нейкія пасобныя артыкулы ўставы аказываюцца паміж сабой супрэчнымі і ўстава дзеля гэтага аказываецца нягоднай да ўжываньня. Вось тут і патрэбны Сэнат, у якім другі раз разглядаецца ўсё тое, што пастаноўлена Соймам. Бывае так, што самі паслы Сойму зварачываюцца да сваіх калегаў у Сэнаце з прапазыкай унясьці тую ці іншую папраўку. Дзеля гэтага ува ўсіх краёх, дзе ёсьць дзьве палаты, „верхняя" і „ніжняя", заўсёды верхняя складаецца з меншага ліку і пры гэтым старэйшых гадамі сяброў. Гэта робіцца дзеля таго, каб кожная справа, якая

# Да жыхараў Ашмянскага, Маладэчанскага, Вялейскага, Валожынскага, Лідзкага і Шчучынскага паветаў.

БРАТЫ БЕЛАРУСЫ! У вашых паветах, якія ўходзяць у Лідзкі выбарчы вокруг, сеймавы сьпісак № 11 быў скасаваны. Але ведайце, што скасаваны быў ТОЛЬКІ СОЙМАВЫ сьпісак, а сьпіскі ў Сэнат зацьверджаны. Затым кожны Беларус гэтых паветаў галасуе ў Сэнат за свой беларускі сьпісак **№ 11**

разглядалася ў Сойме часта ў атмосфэры гарачай партыйнай барацьбы, магла-б быць яшчэ раз разгледжана ў больш спакойных і ўраўнаважаных варунках.

Але-ж з другога боку бывае, што праз Сэнат нейкія партыі стараюцца **затрымліваць працу сойму**, каб ня даць прайсьці тым законам, якія бываюць больш карысны для ніжэйшых масаў, для працоўнага народу, бо часта да Сэнату падаюць людзі з абшарніцкай ідэолёгіяй і антыдэмократычным процілнародным духам.

Вось з гэтага погляду нам беларусам яшчэ больш трэба зьвярнуць увагу на Сэнат, каб правясьці туды **сваіх** людзей, якія павінны дапільнаваць, падтрымаць, ці ня даць сапсуць якінебудзь карысны для народу закон, каб не прападала дарма праца нашых змагароў у Сойме.

Больш як сямёхгадовая практыка Сойму і Сэнату дае нам ня мала прыкладаў таго, як тая ці іншая ўстава, прынятая Соймам, пасьля разгляду ў Сэнаце узноў вярталася ў Сойм, і Сойм згаджаўся не са сваімі пастановамі, а з папраўкамі Сэнату.

З гэтага відаць, што мы **не павінны з непавагай адносіцца да выбараў у Сэнат, а 23 лістапада ісьці таксама, як адзін чалавек, каб галасаваць за сваіх кандыдатаў у Сэнат**

**Памятуйце аб гэтым, грамадзяне, нагаварывайце адзін другога, ідзіце і выконывайце свой лёгкі, але так патрэбны і важны грамадзкі абавязак. Усе да урнаў гакжа 23 лістапада!**



## З газэт.

**„Спэц" ад беларускіх спраў ізноў піша...** Пан Т. Голувко, які ад нейкага часу есьць „спэцыялістам" ад беларускіх спраў, падае ў газэты свае стацьці, у якіх даволі наіўна і павярхоўна (на што нават зьвярнуў увагу п. Тэстіс з „Kur Wil.") асьвятляе беларускія справы. І так, пару месяцаў таму, п. Голувко напісаў даўзёрны артыкул аб тым, як заспакоіць беларусаў і іх нацыянальныя дамаганьні. У тым артыкуле п. Голувко дайшоў да вываду, што, адняўшы нацыянальную душу ў беларускага народу, усё будзе добра...

Цяпер ізноў (гл. „Kur. Wil." 9. XI. с.г.) піша, што „шырокія народныя масы належна ацэньваюць той аграмадны поступ, які адбыўся ў часе ўрадаваньня Маршалка Пілсудзкага ў галіне гаспадарчай і культурнай" (даслоўна!) і што да згоднага сужыцьця народаў прычынілася „ўвядзеньне нармальнага гміннага, павятовага і гарадзкога самаўраду"! Далей, на пытаньне, якія найважнейшыя пажаданьні беларусаў трэба было-б заспакоіць, п. Голувко адказаў, што за найважнейшую справу ўважае справу веравызнаньня! А мы думалі, што найважнейшай справай у нас будзе побач з справай веравызнаньня зямельная рэформа, школьніцтва, эканамічны крызыз і г. п. Але паводле п. Голувкі **толькі** справа веравызнаньня!...

Варта было б таксама пану Голувцы зьвярнуць большую ўвагу на эканамічную галіту нашай вёскі. То-ж часам у нашага селяніна няма скуль ня толькі падаткаў аплаціць, але купіць мыла, газы або серні-чак! А ў справе самаўрадаў добра было-б, каб п. Голувко прачытаў хоць стацьцю, друкаваную ў газэце „Przegląd Wileński" з дн. 24.XI. 29 г., дзе выказваецца чорна на белым, што ў нас самаўрад — гэта фальварак павятовага старасты, дзе ён распараджаецца, як хоча.

Словам, праз апошнюю стацьцю п. Голувко яшчэ раз даў доказ сваей неасьвядомленнасьці ў беларускіх і наагул у краёвых справах. Мы усёж-такі верым, што пасьля выбараў, маючы болей часу, п. Голувко пастараецца дапоўніць сваю веду аб жыцьцёвых варунках у нашым краі і такіх павярхоўных артыкулаў падаваць у газэты ня будзе.

## Усе да урнаў! За № 11!

Выбарная кампанія ўжо надыходзіць да свайго канца. 16-га ў нядзелю ўсе выбаршчыкі павінны з'явіцца ў свае выбарчыя камісіі й палажыць свае галасы за сваіх кандыдатаў у Сойм, а 23-га, таксама ў нядзелю, за сваіх кандыдатаў у Сэнат.

Блізкі той час, калі ўсе беларусы сваімі адносінамі да выбараў павінны будуць паказаць сваю нацыянальную і палітычную сьпеласьць, а разам з гэтым зрабіць і той, ці іншы ўплыў на рэзультаты выбараў.

Трэба памятаваць аб тым, што **калі мы цяпер ня выявім сваім выбарным актам сваё існаваньне, то можа стацца, што цэлых пяць гадоў ужо мы не пачуем сваіх беларускіх галасоў у Сойме і Сэнаце.** Чужыя бяз нас будуць безкантрольна кіраваць намі і некаму будзе ў патрэбны час падаць голас за нашыя інтарэсы, заявіць там аб нашых патрэбах.

Чуеце гэта, грамадзяне? Ведаеце гэта? Дык не ляніцеся ж у гэтыя дні пайсьці да свайго абводу і кінуць свае нумяркі ў урну. Ведайце грамадзяне, што **нашымі галоўнымі ворагамі зьяўляюцца** ня іншыя нацыянальнасьці, ня іншыя партыі, а прадусім **нашая ўласная несьвядомасьць, нашая нярухлівасьць, наша лень!**

Дык памятуйце, грамадзяне, што той, хто 16-га і 23-га гэтага месяца ня пойдзе галасаваць, той ёсьць здраднік свайго беларускага народу, бо ён гэтым самым **адымае ад свайго народу кавалак яго сілы, асьлабляе яго нацыянальную моц і гэтым становіцца на старану ворагаў беларускага народу.**

Дык усе да урнаў! Усе: і сяляне, і работнікі, і духавенства, і беларуская інтэлігенцыя

**Іонас Білюнас.**

## Маці.

— Мама, есьці хачу — заявіў я пераступаючы яшчэ толькі парог сваей хаты.

— А гдзе ты так доўга цягаўся?—шорстка і адначасна клапатліва спыталася мяне маці.

—Бачыш, зьмерз ты ўвесь, аж нават нос пасінеў.—

— Быў у Пятра, бабулька там нам ялялю паказывала,—адказаў я борзда маці. Сілюся сьцягнуць з сябе халацік, але бяк не магу выцягнуць рукі з рукава. Маці кінула прасьці, падыйшла, мяне распранула, ускінула на лаву халацік, шапку на крук павесіла і пайшла да печы даваць мне есьці. Наліла ў міску гарачых запраўленых буракоў. Выгаладаўшыся і перамерзшыся еў я, быццам з сенакосу вярнуўся. Скончыўшы есьці ў голас я перахрысьціўся і пацікуy, баючыся сваёю цеганінаю па рэчцы не разгнявіць маткі, пачаў да яе здалёк блізіцца. Падыйшоў, прытуліўся, палажыў ёй на калені сваю галаву, стаяў ля яе ціха, слухаючы толькі, як спакойна і аднастайна турчала кола калаўроту.

Як міла быць пры матцы! Адною рукою яна тагды прала, другою гладзіла мяне па галоўцы. У хаце, апрача нас з маткаю, нікога больш ня было.

— Мама, а ці й мяне бабулька з рэчкі прынясла? — пытаўся я ў маткі.

— Ну а як жа-ж, дзіцятка, і цябе прынясла з рэчкі — адказала матка.

— А ці і тады таксама было сьцюдзена?

— Надта было сьцюдзена, дзетка, ой, як было сьцюдзена!

— А як я тады ня зьмерз?—прыйшло мне ў галаву спытацць;—і маці ні то да мяне, ні то сама да сябе вядзе свой сказ далей:

— Радзіўся ты на прадвесьні каля самага вялікадня, быў ты зусім слабенькі, нават думалі, што ня жывы... таго самага дня і хрісьціць цябе павезьлі...

І доўга яшчэ ты быў хваравіты. Пасьля году пачалі ўздымацца на руках і на шыі скулы, думала, што напэўна ўжо памрэш і кашульку ўжо была на сьмерць прыгатавала.

— Гэта тую, якую і цяпер на сьвята адзяю? —пытаюся я маткі.

— Тую — адказывала матка і садзіла мяне да сябе на калені.

— А гдзе-б я тагды быў, каб памёр.

— Высока, высока, у самога Бога.

—І заўсёды ў гэтай белай кашулі хадзіў-бы?

— Табе-б там далі шмат харашэйшую, быў-бы ты там, як анёл, бо ўсе малыя дзеткі па сьмерці робіцца анёламі.

— А ці і крыльцы я бы там меў?

— Меў-бы, дзетка!

—Дык чаму, мама, я не памёр?—пытаў я я,як-бы шкадуючы, што гэтага са мною ня сталася.

— Лепш, дзетка, што жывы ты астаўся, бо ці-ж ня было-б табе шкода мяне адну тут пакінуць?—пытаецца расчуленым голасам матка, тулячы мяне да сябе і цалуючы ў галаву. Потым старан на згледзіла яна мне шыю, галаву, ці няма там балячак якіх, або занозаў, ці ня збіў чаго, бегаючы па каменьнях, тады адшпіліла і вывернула на мне кашулю і рукавы; з абудвых бакоў цела ясна відаць былі знакі ад загаіўшыхся скулаў.

— Адсюль ажно костачка вывалілася, як праравалася была скула—кажа мне маці, шчупаючы на скуры гузачок.

Ня будзе з цябе аратага — кажа з жалем далей маці. — Жабраком астанешся, ня зможаш кавалка хлеба сабе запрацаваць, крыўдзіць цябе ўсе будуць, як якога недарэку...

Хоць добра я не разумею значэньня матчыных слоў, але адчуваю, што мушу стацца ў будучыне нейкім няшчасным і мне зрабілася надта сумна і балюча, я яшчэ мацней прытуліўся да грудзей маткі і пачаў голасна плакаць.

— Ша, ціха, дзетка, ня плач, — уцішае мяне маці, — лепш я табе засьпяваю песьню аб бусьле,—хочаш?

— Хачу — адказываю я, усхліпаваючы скрозь сьлёзы і павекі — перастаю плакаць.

Песьню гэтую часта сьпявала мне маці і яна мне падабалася надта. Прадучы, ціха калыша мяне маці сваімі нотамі. Прыгожая песьня зусім мяне ўцішае, нясе мяне некуды ўвысь і вядзе да скорага салодкага сну. Мне тады надта прыемна шчасьліва і спакойна.

...Той бусел даўгашыйны кле-кле...—ледзь разьбіраю дрэмячы мэлёдыйна плывучыя гукі знаёмай і мілай мне надта песьні; я скора засыпаю і толькі скрозь сон адчуваю, як нясе мяне маці на ложка, як потым укрывае і перахрысьціўшы маю галаву, варочаецца сама да сваей перарванае працы.

З літоўскай мовы пераклаў

Вільня. Лукішкі. **Юры Сабалеўскі.**



## Браты Беларусы!

Як пры галасаваньні ў Сойм 16 лістапада, так і пры галасаваньні ў Сэнат 23 лістапада, апрача яўна польскіх сьпіскаў, сьцеражэцеся таксама № 22, які хоць заве сябе беларускім, сапраўды ёсьць сьпіскам беларуска-польскай санацыі, на чале з Луцкевічам і Астроўскім.

агулам, і мяшчанства і купцы. Пакажэце сваю сьвядомасьць і здольнасьць змагацца за свае правы і за сваю долю!

За які-ж нумар галасаваць? Разумеецца, што беларусы павінны галасаваць толькі за **свае беларускія партыі**, бо ніхто так ня ведае патрэб беларусаў, іхных інтарэсаў, як тыя, якія выйшлі з свайго народу, якія зжыліся з ім, асабліва тыя, якія ўжо даўно працуюць на ніве беларускага адраджэньня, якія ўжо паказалі сваю здольнасьць да змаганьня за лепшую долю свайго народу.

Але могуць тут сказаць: што нам рабіць, калі самі беларусы разьбіліся на некалькі партыяў і кожная заклікае да сябе?

На гэта трэба адказаць вось што. Калі ўсе беларусы разьбіліся на дробныя кавалкі, дык ёсьць усёж-такі адна беларуская нацыянальная установа: **Беларускі Нацыянальны Камітэт,** які сам не належыць да ніякай партыі, але які стаіць на чале ўсіх беларускіх нацыянальных установаў і партыяў, які стаіць на варце беларускіх інтарэсаў і які аб'еднывае ў сябе ўсёчыста нацыянальнае беларускае, з якім, як сапраўдным нацыянальным прадстаўніком Беларускага Народу лічацца і зносяцца іншыя народнасьці, як у Польшчы, так нават і заграніцай (у Лізе Нацыяў). Ён, гэты Нацыянальны Камітэт, аб'яднаў у сябе ўсё жывое, сапраўды нацыянальнае беларускае, ён — гэты Камітэт — знайшоў і саюзьніка ў родным нам украінскім народзе, ён адзін змог злажыць і дзяржаўны сьпісак у Сойм і Сэнат. Гэта адзіная арганізацыя, каторая сапраўды аб'еднывае сабой рух беларускі і ўсе аб'яднаныя ім беларускія групы злучыліся ў адзіны блёк і выставілі сьпісак, які дастаў **№ 11.**

Ясна-ж цяпер, што ня трэба нам разьбіваць сваіх галасоў, аісьці толькі за тым, **хто не разьбівае, а аб'еднывае.**

Хай кожны з беларусаў ведае, што, той, **хто зусім ня ідзе галасаваць, той адбірае ў свайго народу кавалак яго сілы, а той, хто галасуе не за № 11, а за іншы, той разьдзірае на часткі сілу беларускага народу, той абніжае яго павагу і перашкаджае яго нацыянальнаму росту.**

Кіньце-ж беларусы, кіньце, браты, усе свае ўнутраньнія спрэчкі і непаразуменьні! Мы разьлічымся пасьля, — пасьля разьбярэмся між сабой у сваім унутраньнім жыцьці, а цяпер, у гэты такі важны крытычны час, ідзіце ўсе, усе, адным супольным фронтам, аднэй сьцяной, усім мірам-народам і галасуйце за нумар „Беларуска-Украінскага Блёку", — за **№ 11.**

## З Беларускага жыцьця.

**Вянок на памятнік Вялікаму Вітаўту.** 11 лістапада сёл. году Віленская Беларуская гімназія ўзлажыла вянок прад памятнікам Вітаўта Вялікага ў касьцеле сьв. Мікалая. На гэтай урачыстасьці былі ўсе вучні беларускай гімназіі і большасьць вучыцялёў.

**Апэляцыйны Суд над Ст. Грыбом і М. Ярмаком.** 11 лістапада с. г. у Віленскім Апэляцыйным Судзе была разглядана справа беларускіх касьцельных сьпевакоў Жодзішнай парахвіі Ст. Грыба і М. Ярмака.

Суд прызнаў вінаватымі падсудных у тым, што яны пяючы беларускія песьні перашкаджалі ў польскім набажэнстве і прысудзіў Ст. Грыбу 3 м. турмы, а М. Ярмаку 2 м. турмы.

Такім чынам кс. Дроніч можа цешыцца.

**Судзяць.** 12-га лістапада Акружны Суд у Горадні разглядаў справу былых паслоў з бел. сял.-работніцкага клюбу Ігн. Дварчаніна, Валынца і тав., абвінавачаных за падзеі на пасольскім вечы ў в. Алекшыцах каля Горадні. Названых б. паслоў суд засудзіў кожнага на 6 гадоў цяжкага вастрогу, а рэшту — 10 чалавек — на 8—12 месяцаў.

**10-тыя ўгодкі** існаваньня Бел. Студэнскага Саюзу ў Вільні будуць урачыста сьвяткаваны у нядзелю 23 г. м.

Урачыстая акадэмія ў Унівэрсытэцкай Салі Сьнядэцкіх пачнецца а 11 гадз., а канцэрт-баль пад пратэктаратам Яго Магніфіцэнцыі Рэктара Унівэрсытэту праф. Д-ра Янушкевіча ў салі „Апольлё" (Домброўскага вул. № 5) а 20 гадз.

### З РАДАВАЙ БЕЛАРУСІ.

**Галадоўку** пачалі 500 вязьняў менскага вастрогу, затое, што з імі страшна жорстка і непалюдзку абходзяцца вастрожныя ўлады і не даюць тытуню. Павадыроў галадоўкі выслалі ў Віцебск.

## Восень.

Восень пахмурная, восень туманная,
Восень плакучая — сэрцу жаданая!
Ці будзеш, восень, цьвёрда надзеіцца,
Што хмары цёмныя хутка разьвеяцца?...

Думкі жудасныя!.. вы-ж мне ня новыя,
Дзе вашы пекныя мары вясновыя,
Сілы магутныя, мэты далёкія,
Песьні вясёлыя, ўзьлёты высокія!

Усё зажудзілася, ўсё засмуцілася,
Быццам на хвалях у мора пусьцілася —
Восень пахмурная, слязмі залітая,
Думкі жудасныя — жалем спавітыя.

Коко.

## Нашы сэнатары, што кандыдуюць на сьпіску № 11.

У ва ўсіх паветах ваяводзтваў Віленскага і Навагрудзкага на сьпіску блёку беларуска-украінскага № 11 кандыдуюць:

**Вячэслаў Багдановіч,** сын беларускага сельскага сьвяшчэньніка. Скончыў Кіеўскую Духоўную Акадэмію. Па прафэсіі вучыцель. Прымаў дзейнае ўчасьце ў выбарах у Расейскую Думу, падтрымліваючы ў Віцебску кандыдатуру ведамага беларускага вучонага Сапунова. Найдаўжэй вучыцельстваваў у Вільні, адкуль у 1917 г. езьдзіў на Царкоўны Сабор у Маскву, як дэлегат беларускага праваслаўнага насяленьня нашага краю. У Вільні В. Багдановіч увесь час прымаў і прымае выдатнае ўчасьце ў беларускім руху. Між іншым шмат папрацаваў каля закладзін Віленскай Беларускай Гімназіі, у якой працаваў вучыцелем аж да выбару яго ў сэнат 1922 г. Беларускі народ ацаніўшы належна працу В. Багдановіча выбраў яго на свайго сэнатара 1922 і 1928 г.

Будучы сэнатарам В. Багдановіч адзначыўся, як вытрывалы і чэсны абаронца правоў беларускага народу ў яго жыцьці палітычна-грамадзкім, культурна-прасьветным, рэлігійным і эканамічным.

**Базыль Рагуля.** Родам з вёскі Ачукевічы, Навагрудзкага пав. Па прафэсіі вучыцель. Ведамы беларускі дзеяч. Па скончэньні Вучыцельскага Інстытуту ў Вільні за рэвалюцыйную беларускую работу ў 1907 г. царскімі ўладамі быў арыштаваны і пасаджаны ў турму ў Навагрудку. Пасьля вайны Б. Рагуля працуе на сваей сялянскай невялічкай гаспадарцы ў родных Ачукевічах. Падчас выбараў у Сойм 1922 г. ён адважнай і ахвярнай сваей працай зрабіў тое, што Навагрудзкі вокруг даў найбольш беларускіх паслоў. Б. Рагуля, будучы паслом ад 1922 г. і сэнатарам ад 1928 г., у сваей палітычнай дзейнасьці адзначыўся стойкасьцяй і простalінейнасьцяй. Гэта сапраўдны барацьбіт за волю і долю беларускага народу. Любоў да свайго народу і праца для яго давялі Б. Рагулю да Лукіскай турмы, дзе ён мучыцца і сяньня.

Выраж гэтыя нумары кожны паасобку і галасуй імі 16 і 23 лістапада. Нумар з якімкольвек дапіскам, знакам, хоць-бы на адваротнай старане — будзе няважны. Дык глядзі, каб нумар быў чысты.

# 11

# 11

# 11

## З заграніцы.

**У Фінляндыі** процібальшавіцкі кірунак палітыкі становіцца штораз сільнейшым. Відаць гэта хоцьбы з апошняй рэзалюцыі прынятай фінляндзкім соймам дня 12 г. м., накіраванай перадусім процiў комуністаў. Кажуць, што бальшавікі ня будуць дзеля гэтага ў наступных соймавых выбарах прымаць учасьця.

**У Англіі** ў Лёндане д. 12 г. м. адчынена г. зв. Конфэрэнцыя Круглага стала, якая мае патрываць чуць ня тры месяцы. Мэтай конфэрэнцыі ёсьць апрацаваньне праекту палітычнага упраўленьня Індыі. У конфэрэнцыі бяруць учасьце 17 прадстаўнікоў ангельскіх, 16 магараджаў (індыйскіх удзельных князёў) і 57 прадстаўнікоў ангельскай (брытанскай) Індыі.

## Карэспандэнцыі.

**Перабродзьдзе,** Браслаўшчына. У нас усе ідуць гарой за сьпісак беларуска-украінскага блёку № 11. Адна толькі бяда, што адчуваецца недахват газэт, адозваў і нумароў нашага блёку. Але людзі адны ад адных даведываюцца, што рабіць, а такжа дастаюць гэтак і патрэбную літэратуру. Нашы стараверы, якія ад вякоў жывуць з намі, зьбіраюцца такжа галасаваць з намі.

Л. К.

**Клюшчаны,** Сьвянцяншчына. Каля нас апошнім часам пачаўся вялікі рух. Агітацыя прадвыбарная ідзе ўсей парай. Хто толькі не намаўляе да сябе нашага брата! Тут і ведамы абібок А. Стэповіч, які да нас прыяжджае тады, калі яму нашы галасы патрэбны, і ведамы агітатар А. Шапель, які ўжо аддаўна баламуце наш народ, агітуючы падтрымліваць рожных нашых ворагаў і шмат іншых. Аднак народ найбольш хіліцца да сваіх людзей, да сьпіску № 11, на якім першы стаіць наш зямляк з вёскі Казаноўшчына, інж. Ад. Клімовіч.

Тутэйшы.

**Сідра,** Сакольшчына. У нас вельмі добры быў настрой да сьпіску № 11 Беларуска-Украінскага блёку. Гэткі добры настрой па ўсім Сакольскім павеце. Але што-ж з гэтага настрою, калі ў нашым вокрузе гэты наш нумар скасаваны. Нашы людзі, як аб гэтым даведаліся, то вельмі засумавалі і цяпер самі ня ведаюць, што рабіць.

Сідарчук.

**Маркоўцы,** гміна Жодзішкі. Падыходзе дзень 16 і 23 лістапада, калі мы павінны падаць свой голас на паслоў у Сойм і Сэнат. Вось-жа трэба нам на гэты раз, як і заўсёды, падтрымаць сваіх кандыдатаў, якія прайшоўшы ў паслы ці ў сэнатары, глядзець будуць не сваіх спраў, як гэта зрабіў ведамы Янка Станкевіч, але шчыра будуць бараніць інтарэсаў усяго беларускага працоўнага народу. А гэтымі кандыдатамі зьяўляюцца кандыдаты на сьпіску № 11. Дык помнімо аб гэтым і 16 і 23 г. м. кіньма на іх у выбарную урну картачку з нумарам 11. Калі гэткага нумару друкаванага дзе няма, дык мы павінны самі напісаць і галасаваць ім.

В. Н.

**Мядзьведзічы,** Баранавіцкага павету. Каля нас усе зьбіраюцца галасаваць за № 11. Тутака ўжо ўсе добра разумеюць, што толькі на гэтым сьпіску стаяць людзі, якія нас ня здрадзяць. Праўда, маем дужа многа розных перашкод, але ўсё нічога: 16 г. м. на галасаваньне ў Сойм, а 23 г. м. ў Сэнат усе пойдзем дружна з № 11, а калі з цэнтру не атрымаем друкаваных нумаркоў, дык самі напішам, а сваё зробім.

Т—ч.







Рэдактар і Выдавец Б. Кляпацкі. Беларуская друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6